


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" |
|---|---|---|

№ 50-51 (534-535) — Каталіцкія Каляды 1960 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# Ізь Сьвятымі Калядамі!

## Дарагія ў Хрысьце Беларусы!

У гэты сьвяты час, калі Царква ў сваіх абрадах, малітвах і літургічных сьпевах прыпамінае нам вялікую тайну ўцелаўленьня й нараджэньня Сына Божага, мы перадаём вам шчырае хрысьціянскае прывітаньне й пажаданьні і багаславім вас на далейшую стойкасьць і вытрываласьць у змаганьні за годнасьць чалавека й яго правы.

Нам добра ведамыя сьньняшнія абставіны нашых братоў на Бацькаўшчыне. Там быццам у імя поступу й дабрабыту ўвесь магутны дзяржаўны апарат накіроўваецца ня дзеля чаго іншага, як толькі каб забіць дадзенае права чалавеку ад Бога на свабоду слова, на свабоду выбару працы й на свабоду сумленьня.

Паўтараецца бэтлеемская драма. Калі Хрыста — нявіннае Дзіцятка, туліла ў сваіх абняцьцях Прачыстая Маці, то Гэрад, быццам у вабарону сваіх правоў і свайго валадарства, хітра абдумоўваў сяродкі згубы для Збаўцы сьвету. І ў сваім злачыне не паўстрымоўваўся ў забойстве нявінных бэтлеемскіх дзетак, равесьнікаў Хрыстовых.

Аднак ці-ж магчыма забіць праўду?

Ніколі! Чым больш цёмныя сілы стараюцца яе зацьміць, тым ярчэй яна разгараецца.

Бачучы аднак нелады ў сьвеце й ня раз адчуваючы фізычную й маральную стому, не адзін з нашых братоў там у Савецкай Беларусі і тут на чужыне ў вялікім расьцярушаньні, гатоў заламацца і адрачыся ўсяго таго, чым жылі й дыхалі нашыя глыбока веруючыя дзяды й прадзеды.

Дарагія Браты і Сёстры!

Хрыстос які быў учора, такім сяньня й навекі! У канчатковым розыгрышу ён будзе пераможнікам.

Трэба нам аднак зразумець тую глыбокую хрысьціянскую праўду, што дзеля сваіх уласных і ўнасьледжаных ад нашых родзічаў грахоў, пакуль мы на гэтым сьвеце, мы толькі пільгрымы да мэты і дарэмна мы шукалі-б тут поўнага шчасьця. Сэрца людзкое па сваей прыродзе накіраванае да бесканечнага, да неабсяжнага, да вечнага і здаволіць яго можа выключна яго тварэц-Бог, які па сваей сутнасьці і ёсьць неабмежаваны ў дасканаласьцях, вечны ў сваей шчасьлівасьці, апошні прыстанак і мэта чалавека.

Празванілі нам сяньня вушы лёзунгі розных хвальшывых пракокаў аб зямным раю мільянэраў і аб дасягальным шчасьці пралетараў. Дык каб-жа тыя лёзунгі асталіся толькі на паперы! Нажаль, насільнае праводжаньне іх у жыцьцё каштуе нашаму народу шматлікіх ахвяраў. У імя бязбожнага гуманізму топчуцца правы адзінкі й цэлых народаў. Дасягненьні тэхнікі выкарыстоўваюцца — часта вельмі-ж наіўна — супраць рэлігіі й існаваньня Бога. Рэлятывізм адносна маральных прынцыпаў, характэрны ня толькі для вызнаўцаў марксістаўскага сьветапагляду, ўласьцівы так-жа й для г. зв. капіталістычных клясаў, спрычыняе недавер і напружанасьць у сьвеце. Адкінуўшы Бога, каму-ж тады верыць і на чым апёрціся?

І так на ўсім кругазоры сьвету дарэмна мы шукалі-б іншага надзейнага пункту на шляху чалавека да свайго прызначаньня апрача бэтлеемскае зоркі. Яна паказвае нам Бога-чалавека, які зь любові да нас стаўся адным з нас: І Слова сталася целам і прабывала паміж намі — і мы бачылі славу Ягоную, славу як адзінароднага ад Айца — поўнае ласкі й праўды (Ян, І, 14).

Абставіны, у якіх прыйшоў Хрыстос на сьвет, прысланялі Яго запраўдную веліч і моц і не малой вымагалі веры ад бэтлеемскіх пастушкоў і ад мудрацоў Усходу, каб у сьціплым дзіцяці прызнаць Бога й Збаўцу людзкога роду. Так яно ёсьць і да сяньня: запраўдная Хрыстовая навука ня прынаджвае да сябе танна крыклівай прапагандай, але дзейнічае аздараўляючай сілай на пакорны розум і перамяняе сэрцы тых, хто добрай волі.

Бэтлеемская зорка з усей яе сымболікай красы, дабра й хрысьціянскай любові зьяўляецца адзінай надзеяй і нашага зьбянтэжанага беларускага жыцьця як там на шматпакутнай Бацькаўшчыне, так і тут на чужыне.

Пераходзячы ад сымболікі да фактаў канкрэтных, няхай нам будзе дазволена ўспомніць у першым нашым пастырскім пасланьні аб некаторых здарэньнях, якія мелі месца ў мінаючым 1960 годзе, а якія бяз сумлеву не асталіся бяз уплыву на нашае беларускае жыцьцё тут на эміграцыі, а так-жа, трэба спадзявацца, і там на Бацькаўшчыне. Мы адзначаем два такія здарэньні: у лютым І-шы Зьезд Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў на чужыне, які адбыўся ў Рыме з волі і пры дапамозе Айца Сьв. Яна XXIII, назначэньне й высьвячэньне ў маей недастойнай асобе беларускага каталіцкага біскупа ў час Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу ў Мюнхэне.

Апостальскі Пасад, бяручы пад увагу той факт, што Беларусы каталікі лацінскага абраду дэ юрэ маюць свайго біскупа ў васобе Яго Дастойнасьці Балеслава Слосканса, Апостальскага Адміністратара Менскага й Магілёўскага, уважаў мэтазгодным даць яму ў дапамогу біскупа Беларуса ўсходняга абраду.

Запачаткаваць беларускую герархію, зьнішчаную насільлем і несправядлівасьцю, — гэты вялікі гонар і вялікі цяжар выпаў з волі Божай і Апостальскага Пасаду на маю долю.

У першую тады чаргу дзякую Ўсемагутнаму Богу за Яго міласэрдзе над намі. Бог у сваім провідзе дае рост травінцы, хістанай подыхам ветру, кіруе доляй адзінкі й цэлых народаў.

Так-жа выказваю ўдзячнасьць Айцу Сьв. Яну XXIII, які ў кароткі час свайго служэньня справядліва здабыў тытул Айца хрысьціянскага адзінства й дабрадзея беларускага народу. Ён-жа ў час ласкава вызначанай мне аўдыенцыі (20-га жніўня) багаславіў мяне як добры

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**



## КРАСА І СЭНС КАЛЯД

Коляды — Хрыстовыя Народзіны — гэта наймілейшае з усіх сьвят у годзе. Ніякае іншае сьвята ня будзіць у людзкой душы гэтулькі чулых успамінаў, пабожнай рамантыкі. Год за годам у марознай атмасфэры сьнежня разгалосна весьцяць нам яго званы сьвятыняў, і людзкі дух агартае тады таёмная багавейнасьць, апавіваючая анельскую дабравесьць: **«Сяньня... нарадзіўся вам Збавіцель».** Штогод сьвяткуем гэтае Нараджэньне ў духу нявінна-вясёлае дзіцячае паэзіі, наагул рэлігійнай захоплíва настройваючай радасьці.

Калядныя Сьвяты — гэта чароўная ніць, што вяжа мінуўшчыну з будучыняй. Штогод — як толькі залатыя зоркі замігцяць на небе, а пры засланым пахучым сенам і белым абрусам стале засядзе радня, дзіўна адраджаецца ў памяці мінулае... Старыя мэлёдыі й наіўныя словы калядак, хісткое полымя сьвечак на ялінцы — усё гэта выклікае ў душы ўспаміны зь мілых маладых гадоў шчырае веры, што ня мудравала й ня пытала, а толькі дзякавала Богу за тое, што спаслаў Свайго Сына, прынёсшага супакой і лад людзям добрае волі. А ў веку дасьпелым тыя, што на шляху жыцьця не забылі яшчэ малітвы, просяць у той сьвяткавальнай хвіліне пасланць ім непахісную веру й добрую волю, безь якое людзкой натуры неўмагату прыняць з пакорным энтузіязмам гэтую радасную вестку ды аднайсьці сябе і ўсабешні супакой.

З усіх хат зьвіняць песьні, славячыя — проста песьцячыя — малую Божую Дзяціну, падзіўляючых анелаў і захопленых пастушкоў. І зьліваюцца іхнія сьпевы зь літургічнымі ў сьвятынях ды з званіцаў нам у вадну чароўна-сымфанічную кантэмпляцыю тае Сьвятое пераствараючае гісторыю Падзеі. У чародных акордах плывуць з бэтлеемскіх палёў словы, што маюць перажыць усе буры і негадзь, наагул — дачаснасьць. Зь ілюмінаваных аўтароў, з разгамоняных амбонаў крынічыць надзея, бадзёрасьць, непераможная сіла новага жыцьця. Кажны затоплены ў малітве, спадзеве й эгзальтацыі не паддаецца цяжару жыцьця, але падштурхваны тысячамі, чуе ў сабе сілу тых тысячаў і пасоўваецца ёю наперад.

У тую Вялікую Ноч — бывае — устаюць цені даўно ўжо паўміраўшых, ці па сьвеце расьцярушаных, аб якіх думкі ледзь толькі тлеюць у памяці — мярэчацца бы зоркі, міргаючыя із-за хмар няпэўным блескам, ці водгаманам з засьветаў.

*

Але ня ўсім дазволена ў радасным супакоі сьвяткаваць Народзіны Хрыстуса. Часамі амарочваецца яно балючымі ўспамінамі, якіх ня можа пагасіць ніякая сьвяточная эгзальтацыя. Сягнем толькі думкай да тых краін бяздольля горкага й жаху, дзе ў замерзлых сібірскіх тайгах і тундрах ці ўдушлівых лягерах і бараках няшчасныя выгнанцы, пры жухлай мо толькі лучынцы калядуючы, спамінаюць шчасьлівае мінулае зь дзяцінства. Ці ня ўціскаецца тады ў горла гнятучымі сударагамі балючая туга па мілай супакойнай вёсцы, радні ды волі? Ім цяжка сунімаць ад пераўтомленьня тужліву ўяву. Празь сьлёзы сіляцца ўявіць небаракі вобразы свабоднага вольнага жыцьця, а шкляныя іх вочы выглядаюць на чакаючыя цуду. Чакаюць хоць пісулькі якое з дому, але адабрана ім нат і тая крышка пацехі, што сплывае з маленькае паперынкі, загрызмоленае рукою найдаражэйшых. Для іх сустрыманы гон часу, як і для мільёнаў іншых «перевоспитованных», для іх замігціць у гэтым годзе зорка, апавяшчаючая супольную Куцьцю Сьвятую.

Для тых усіх, што тужаць із катаргаў і вязьніц сібірскіх, казахстанскіх або з хмарадзёраў бяздушных заморскіх па роднай свабодзе, шляхі вяртаньня заблытаны, калі не дратамі калючымі, дык палітыкамі магучымі ... І з штораз большаю горыччу заціскаюцца кулакі зьняверанае, вынарадаўлянае эміграцыі, расьцярушанае па ўсім сьвеце. Ня ўсюды вось-жа відна сяньня сьвяткавальная радасьць, шмат бо людзей прыгноблена журботнымі думкамі аб няпэўнай будучыні і аб неперастаўна зьвіхнёнай сучаснасьці.

Аднак, калі ў містычна-пабожнай сьвяткавальнай задуме ўпрытомнім сабе спрадвечную праўду:

Збавіцель родзіцца між намі —
Чакана Праўда-Гожасьць-Любоў —

тады ажывае ў зьняверaным сэрцы вера ў форме вершу Якуба Коласа:

Пойдзе дымам ўсё ліхое,
Ўсё, што душыць нас і гне,
Верце — жыцьце залатое
Будзе ў нашай старане!..

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

# На вернай службе ідэі

На куцьцю 1949 году — роўна адзінаццаць год таму назад — з Ватыканскае Радыястанцыі ў Рыме прагучэла ўпяршыню беларуская мова. У гэты вечар быў перададзены пераклад на беларускую мову Калядпай прамовы Сьвятога Айца, што палажыла пачатак пад сталыя беларускія перадачы цераз Ватыканскую Радыястанцыю. Яны спачатку адбываліся раз у тыдзень, пасьля двух гадоў былі пашыраныя да двух разоў, а ад 1958 году — да трох разоў у тыдзень.

Вялікае нацыянальнае значаньне гэтых перадачаў, апрача іхнага глыбока рэлігійнага й шчыра нацыянальнага характару, непамерна ўзрастала яшчэ ў сувязі з тым, што гэта былі храналягічна першыя сталыя беларускія, і то ня толькі мовай, але й зьместам, радыёвыя перадачы ў вольным сьвеце. Толькі пасьля іх зьявіліся значна пазьней (у 1954 годзе) беларускія перадачы ў мюнхэнскай амэрыканскай Радыястанцыі «Вызваленьне» і яшчэ пазьней беларускія перадачы цераз Гішпанскае Нацыянальнае Радыё ў Мадрыдзе. Ініцыятарам і арганізатарам, кіраўніком і галоўным аўтарам, наагул усей душой гэтай так важнай для беларускай справы дзейнасьці быў і астаецца па сяньняшні дзень нязмораны працаўнік і глыбокі беларускі патрыёта ксёндз Пётр Татарыновіч.

Калі мы распачынаем гэты артыкул зацемкай аб радыёвай працы ксяндза д-ра Татарыновіча, дык робім гэта ня дзеля таго, каб гэтая галіна была адзінай або найважнейшай у нязвычайна багатай і разнастайнай ягонай нацыянальнай і рэлігійнай дзейнасьці, — хаця й ейнае значаньне й роля вялікая, — але перадусім таму, што яна якраз пачалася перад адзінаццацьмю гадамі, як і сяньня, на каталіцкую Куцьцю. Наагул-жа дзейнасьць ксяндза Татарыновіча для дабра беларускага народу распачалася шмат раней, бо ўжо 45 год таму назад ксёндз Татарыновіч, тады яшчэ як клерык, уключыўся ў беларускае нацыянальнае жыцьцё моладзі, а ў 1916 годзе становіцца афіцыяльна сябрам беларускай акадэміцкай арганізацыі ў Пецярбурзе.

Пасьля высьвячэньня 12 чэрвеня 1921 году на сьвятара, г. зн. бязмала сорак год таму назад, пачынаецца й разьвіваецца бесьперапынна й ягоная душпастырская дзейнасьць. Гэтая дзейнасьць была цесна й неразлучна зьвязаная зь беларускай нацыянальнай дзейнасьцю ў розных ейных аспэктах. Як ведама, беларускае каталіцкае духавенства адыйграла вызначную ролю ў ідэйным і арганізацыйным фармаваньні беларускага нацыянальнага адраджэньня ў «нашаніўскую» пару перад Першай сьветавай вайной і паміж абедзьвюма сьветавымі войнамі ўжо толькі ў Заходняй Беларусі, калі кажная каталіцкая парахвія, абсаджаная сьвятарамі Беларусамі, тварыла сабой моцнае й духова здаровае асяродзьдзе беларускай нацыянальнай сьведамасьці й беларускага нацыянальнага руху. Антон Шукелайць у сваім артыкуле «Верны сын Беларусі», надрукаваным ў ньюёрскім «Беларусе» за 5-га ліпеня 1956 году з нагоды прыпадаючай тады 60-ай гадавіны жыцьця, 40-ой гадавіны беларускай адраджэнскай дзейнасьці й 35-ай гадавіны сьвятарства ксяндза Татарыновіча, гэтак піша аб нацыянальна-душпастырскай ягонай дзейнасьці ў тыя часы:

«Ягоныя палкія рэлігійна патрыятычныя казаньні, якім заўсёды таварышыла прыгожая дыкцыя й мастацкі гэст, ламалі лёд нацыянальнай нясьведамасьці й абыякавасьці, спрычыненай векавой няволяй беларускіх народных масаў, здабываючы беларускаму адраджэньню гарачых патрыётаў, а сабе назаўсёды шчыра адданых прыяцеляў. Гэта й было прычынай, што няспрыяльная беларускаму рэлігійна-нацыянальнаму адраджэньню польская духоўная ўлада так часта кідала а. Татарыновіча зь месца на месца: Пінск, Наваградак, Баранавічы, Слонім, Бельшчына. Андак, у найцяжэйшых часох польскага рэжыму, калі Юбілят ня мог вольна парушацца — штогоду з усіх тых мясцовасьцяў, дзе працаваў раней, ішлі большыя й меншыя групкі беларускіх патрыётаў — пільгрымаў у Вільню, каб узяць удзел у супольнай беларускай працэсіі ў Кальварыю, штогоду ўдала арганізаванай а. Адамам Станкевічам. Ішлі сотні кілямэтраў праз усю бадай Заходнюю Беларусь, пехатой, загарэлыя й засмаглыя ад сонечнай сьпякоты, зь беларускай рэлігійнай песьняй на вуснах, каб у супольным разважаньні крыжовай дарогі Хрыста на Гальготу выпрасіць Бога зірнуць на мукі расьпятага Беларускага Народу».



**Ксёндз Пётр Татарыновіч**

Сяньняшняму чытачу варта прыгадаць, што беларускія каталіцкія працэсіі ў Кальварыю, якія адбываліся летам кажнага году й сьцягвалі патрыётаў-пільгрымаў з-за 100-200 кілямэтраў, у гады найбольш жорсткага перасьледваньня польскімі адміністрацыйнымі й духоўнымі ўладамі ўсякіх праяваў беларускасьці перад Другой сьветавай вайной, былі адзінымі даступнымі й яшчэ незабароненымі вонкавымі нацыянальнымі маніфэстацыямі.

У тую вельмі цяжкую пару беларускага жыцьця ксёндз Татарыновіч шырока сябе праявіў, як гарачы беларускі патрыёта й няўтомны працаўнік на ніве нацыянальнага ўсьведамленьня беларускіх каталіцкіх масаў. Апрача чыста душпастырскай і нацыянальна ўсьведамляльнай дзейнасьці, ён даволі шырока выявіў свае здольнасьці і ў галіне журналістычнай працы, зьмяшчаючы свае артыкулы на рэлігійныя й беларускія актуальныя тэмы ў выдаваных тады ў Вільні газэтах, як «Крыніца» (пазьней «Беларуская Крыніца»), «Хрысьціянская Думка» й інш., або выдаючы асобнымі кніжкамі й брашурамі такія творы, як біблійныя абразкі «Вялікія Людзі», навэлька «Купальле», уражаньні зь першага падарожжа ў Рым «Шляхам дзіваў і ўражаньняў», абразкі з жыцьця школьнае моладзі «Зярняткі з роднае юнацкае нівы».

Завіруха апошняе вайны выкінула ксяндза Татарыновіча, як і многіх іншых Беларусаў, на Захад. Пасьля кароткага побыту ў Нямеччыне, ён у кастрычніку 1945 году пападае ў Рым, дзе й асядае настала.

Хаця ў сёлетнім і наступным 1961 годзе прыпадае аж некалькі закругленых лікам гадоў, якія маглі-б быць добрай нагодай да адсьвяткаваньня юбілею ксяндза Татарыновіча, дык спасярод іх якраз апошняе пятнаццацігодзьдзе ягонай рымскай дзейнасьці зьяўляецца найбольш адпаведным для такога адзначаньня й ушанаваньня. Гэты апошні пэрыяд жыцьця й дзейнасьці нашага Юбілята зьяўляецца асабліва важным і вызначальным ня толькі з гледзішча на багаты й разнаякі зьмест ды плённыя дасягненьні, але й з гледзішча на свой іншы й адменны ад папярэдняга характар.

Рэлігійна-грамадзкая й нацыянальна-культурная праца кс. Татарыновіча на Бацькаўшчыне, хоць у многіх паасобных мамэнтах насіла самастойны й незалежны характар, у васнаўным, аднак, была толькі арганічнай часткай згарманізаванае й узаемна павязанае супольнае дзейнасьці цэлае групы беларускіх патрыётаў. У Рыме ксёндз Татарыновіч апынуўся ў зусім іншых умовах жыцьця й працы. Тут аказаўся ён даслоўна адным і адзінокім сталым беларускім працаўніком, бо ўсе тыя суродзічы, якія часова знаходзілі сабе прыпынак у вечным горадзе, маглі яму аказваць толькі нязначную дапамогу, пры гэтым часовага й прыпадковага характару, але ў ніякім выпадку не маглі зь ім дзяліць ані ўношанай ініцыятывы, ані агульнага кіраўніцтва, ані ў дастатковай меры практычнага выкананьня. У сілу абставінаў усё гэта падала на плечы аднаго чалавека, як ініцыятара, кіраўніка й практычнага выканальніка кажнага задуманага ім нацыянальнага мерапрыемства ў ваднэй асобе. І той факт, што наш Юбілят дастойна вывязваўся із сваіх шматлікіх функцыяў, найлепш вымоўна сьветчыць аб ягоных вялікіх здольнасьцях, глыбокай ідэйнасьці й нястомлівай працавітасьці. А ўсё гэта канкрэтныя факты, якіх ніхто не адважыцца ані аспрэчваць, ані памяншаць. І ў гэтым заключаецца вялікая заслуга ксяндза Татарыновіча перад Бацькаўшчынай і Народам, як духоўніка, чалавека й нацыянальнага дзеяча.

Аб дзейнасьці ксяндза Татарыновіча ў Рыме, як арганізатара, рэдактара й асьнаўнога аўтара беларускіх радыяперадачаў цераз Ватыканскую радыястанцыю, ужо ўспаміналася напачатку. Наступным ня менш важным асяродкам ягонае працы ў Рыме зьяўляецца выдаваньне й рэдагаваньне месячнага беларускага рэлігійна-нацыянальнага часапісу «Зьніч», які бесьперапынна ўжо выдаецца роўна адзінаццаць год. Наш Юбілят зьяўляецца і аўтарам аснаўных артыкулаў на рэлігійна-грамадзкія й агульна нацыянальныя тэмы, у часапісе друкаваных.

Раўналежна зь дзейнасьцяй журналістычнай і рэдактарскай ксёндз Татарыновіч займаецца таксама працай навуковай і літаратурнай. У 1949 годзе ён, абараніўшы доктарскую дысэртацыю на тэму «Сьв. Кірыла Тураўскі й яго дактрына асцэтычная» здабывае навуковую ступень доктара in Scientiis Ecclesiasticis Orientalibus. Апрача гэтага, ён перакладае зь нямецкае мовы апалёгічны нарыс і выдае яго п. н. «Хрыстус», далей у сваім Выдавецтве «Зьніч» выдае ў беларускай мове ім-жа пераложаную «Эванэлію й Апостальскія Дзеі», пашыраны й папоўнены ім малітаўнік «Голас Душы» ды ім самым зроблены пераклад на беларускую мову ведамай повесьці Гэнрыка Сенкевіча «Quo Vadis».

Як рэлігійна-нацыянальны дзеяч, ксёндз Татарыновіч пайшоў па лініі выдатнай традыцыі беларускіх каталіцкіх сьвятароў адраджэнцаў, застаючыся й па сяньняшні дзень гарачым староньнікам і цьвёрдым абароньнікам лацінскай формы беларускага каталіцтва. Як ведама, беларускае каталіцтва выканала ўжо вялікую гістарычную ролю ў беларускім нацыянальным адраджэньні якраз у сваей заходняй лацінскай форме. Такі-ж характар прыняла на сябе і ўся нацыянальна-рэлігійная дзейнасьць кс. Татарыновіча.

Няпоўным і аднабокім быў-бы намаляваны тут абраз ксяндза Татарыновіча, як чалавека й дзеяча, калі-б мы ня ўспомнілі яшчэ аднэй вельмі цікавай рысы ягонае душы: гэта ягоная нязвычайная сьціпласьць і бязьмежная самаахвярнасьць справе. Знаходзячыся ў васабістым недастатку й ня маючы дастаткова матарыяльных магчымасьцяў на рэалізацыю нацыянальных плянаў, ён часта аддае свой собскі скромны заработак для прадпрыйманых ім агульных заданьняў. У гэтым можа найболей праяўляецца тая бескарысьлівая любоў і адданасьць ідэялам, якім ён верна служыць.

У кароткім газэтным артыкуле нельга шырока й поўна нарысаваць усіх бакоў і фактаў багатай дзейнасьці ксяндза Татарыновіча. Але й з гэтта сказанага мы можам мець дастатковае ўяўленьне, якім карысным, працавітым і плодным быў дасюлешні жыцьцёвы шлях ксяндза Татарыновіча. За няцэлага паўгода — 2-га чэрвеня 1961 году — яму споўніцца 65 год жыцьця. Мы аднак верым, што гэты, ужо сталы век нашага Юбілята ня будзе перашкодай для ягонае далейшае й гэтак цэннае для кажнага Беларуса дзейнасьці. Дай-жа яму Божа!

**Ст. Станкевіч**

## КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

**Вацлаў Пануцэвіч, КРЫВІЦКІЯ СТАРАДАЎНАСЬЦІ,** сшытак І. Чыкага (Беларуская Выдавецкая Сябрыня), 1960, 68 бб. (цана 0,50 дал. ).

Выданьне (лацінікай) мае падзагаловак «Новыя погляды ў славянскай навуцы». У звароце да чытачоў аўтар і выдавец кажа:

«КРЫВІЦКІЯ СТАРАДАЎНАСЬЦІ» будуць выдавацца сшыткамі ў меру расрацоўкі матар'ялаў. Ветліва просім усіх зацікаўленых у далейшым атрымліваньні чарговых сшыткоў напісаць аб гэтым на адрыс:

V. Panucevič
2042 W. St. Paul Ave.,
Chicago 47, Ill. USA

У першым сшытку «Крывіцкіх старадаўнасьцяў» зьмешчаны вялікі артыкул «Славянскія імёны — ключ да міталёгіі» й рэцэнзія кнігі «Белоруссия в эпоху феодализма», т. I, Менск (АН БССР), 1959, 516 бб.

# Патрыятызм ці нявольніцтва?

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

партыі БССР вырашыў выканаць сямігодку ў сельскай гаспадарцы ўжо ў 1963 годзе», давесьці лік сьвіней адкормленых моладзяй да 1 мільёну штук і птушкі — да 6,5 мільёнаў галоў. Дзеля гэтага, замест 15 тысячаў чалавек моладзі, у 1960 годзе было паслана на калгасныя й саўгасныя фэрмы 23 000 чалавек. Такім чынам, лік моладзі, заняты ў жывёлагадоўлі рэспублікі, дамкнуў у 1960 годзе больш 73 000, што дазволіла забясьпечыць усе жывёлагадаўляныя фэрмы рэспублікі на 60-75 працэнтаў выключна сіламі моладзі, а таксама зарганізаваць новых 800 жывёлагадаўляных маладзёжных фэрмаў.

Заўважым, што ў 1953 годзе, як зазначае Максімаў, на жывёлагадаўляных фэрмах рэспублікі працавала ўсяго каля 8 000 моладзі. Дакінем да гэтага ліку моладзі, занятых на фэрмах, каля 300 тысячаў, што загнаныя на кукурузныя палі. Такім чынам, у прымусовым парадку да калгасных і саўгасных фэрмаў і да кукурузы прымацавана больш 373 000 моладзі, асабліва выхадцаў сярэдніх школаў. Гадоўляй трусоў занятыя галоўным чынам школьнікі 4-5 клясаў савецкай школы; школьная-ж моладзь 6-8 клясаў мусіць адбываць сваю агульную паншчыну на калгасных палёх і апрацоўваць прымацаваныя да школаў так званыя «вытворчыя» надзелы. Апрача гэтага, на сялянскую моладзь лягло зарганізаваньне так званых «культурных выганаў» для жывёлы й паход за выкарыстаньне ўсіх запушчаных ці залеглых земляў. На яе чакаюць таксама цаліна Казахстану й «новабудоўлі камунізму» Сібіру.

Такім чынам, пад вялікім запытаньнем тая «ініцыятыва» моладзі, пра якую апавядае партыя ды й Л. Максімаў. Пастановы прыходзяць зьверху, і моладзь мусіць выконваць іх. Тыя-ж ці іншыя вынікі дасягаюцца ў нябачанай яшчэ дасюль эксплёатацыі гэтае моладзі. Моладзь засаджаная ў нормы: адзін юнак ці юначка мусіць дагледзіць ад 70 да 100 кароў, ад 1 000 да 1 500 сьвіней, ад 6 да 8 тысячаў галоў птушкі ды навет і больш, пра што гавораць гэтыя рэклямаваньні 23 ці 27 тысячаў галоў птушкі. Значыцца, не зважаючы на стан здароўя, на стан бясьпекі, на фізычныя магчымасьці, моладзь забавязана працаваць дзень і ноч. Чалавек зьнік, зьнікла й нейкае пачуцьцё гуманнасьці. Астаўся робат, што можа працаваць у безканечнасьць пры адпаведнай долі алівы.

**П. Залужны**

# „Акоў паломаных жандар“

Выдавецтва Вышэйшай партыйнай школы й Акадэміі грамадзкіх навук пры КПСС выпусьціла ў 1960 годзе зборнік **«Супраць буржуазнага хвальшаваньня гісторыі савецкага грамадзтва»** з сэрыі падобных выданьняў, прызначаных як для нутранага, так і для вонкавага змаганьня з так званымі «буржуазнымі выкрыўленьнямі» гісторыі народаў СССР і самога Савецкага Саюзу. У гэты зборнік увайшлі матарыялы канфэрэнцыі, што была скліканая ў Маскве на пачатку 1959 году ды якая прысьвячалася таксама «крытыцы буржуазнага хвальшаваньня гісторыі СССР». Побач зь іншымі матарыяламі палямічна-прапагандовага характару, у зборніку зьмешчаны апрацаваны ў артыкул даклад Р. Шлапака пад назовам «Сучасная буржуазная гістарычная літаратура пра нацыянальную палітыку СССР (На прыкладзе Беларусі)».

Р. Шлапак (кандыдат гістарычных навук і, відавочна, Беларус з паходжаньня) для сваей тэмы выбраў працу Н. Вакара «Беларусь. Утварэньне нацыі» й В. Колярца «Расея й ейныя калёніі» (у нямецкім выданьні: «Нацыянальная палітыка Савецкага Саюзу»), зьмест якіх ведамы нашым чытачом. На матарыяле гэтых працаў ён і намагаецца паказаць, як «выкрыўляецца» гісторыя беларускага народу, асабліва ягоная гісторыя савецкага пэрыяду, заходнімі гісторыкамі й беларускімі «буржуазнымі нацыяналістымі», што апынуліся на Захадзе.

Як ведама, у працы Н. Вакара зыбрана шмат матарыялаў зь гісторыі беларускага народу, асабліва зь ягонай гісторыі савецкага пэрыяду. У шматлікіх паасобных выпадках ім зроблены вельмі цікавы аналіз і назіраньні, аднак з гэтага адначасна ён робіць у многіх выпадках няправільныя высновы. І гэтак здараецца навет у супрацьвагу ягонаму аналізу. У пытаньнях старажытнай і сярэднявечнай гісторыі беларускага народу ён застаецца «заладнікам», г. зн. лічыць гістарычны працэс беларускага народу ў неразьдзельнай сувязі з «агульным рускім працэсам». Адным словам, Татары спрычыніліся да штучнага распадзелу «адзінага рускага народу» і «адзінай рускай гісторыі» на расейшчыну, беларушчыну й украіншчыну. У 19 стагодзьдзі беларускага пытаньня як нацыянальнага не існавала. Што-ж, як зазначае Н. Вакар, «навет і Каліноўскі выступаў не як Беларус, але як Літвін», хоць і ўжываў для «прапаганды» беларускую гаворку. Значыцца, Н. Вакару яшчэ не зразумела, што ў гэты час амаль што ўсе Беларусы па традыцыі называлі сябе Ліцьвінамі.

Наагул, для Н. Вакара беларускі нацыяналізм, беларуская нацыя існуюць толькі як справа паасобных фантазёраў-нацыяналістых, тым горш — як справа рук Немцаў, Палякоў і бальшавікоў. Гэты высноў ён робіць з таго факту, што ў тыя ці іншыя часы беларускі нацыянальны рух разьвіваўся ў вабмежаваных колах народу, што сам «просты» народ, як выказваецца Н. Вакар, цягнуў за Расейцамі ці Палякамі. Цікава было-б зрабіць такі экспэрымэнт зь дзяцьмі аўтара: на колькі гадоў адлучыць іх ад роднай сям'і, ад бацькоў, ня даць нічога свайго, але трымаць у заўсёднай цемнаце, прымешваючы яшчэ пры гэтым чужое атруты. Вялікае пытаньне, ці пазналі-б паважанага аўтара ягоныя дзеці, або наадварот?

Н. Вакар і сам гаворыць, што расейскім урадам Беларусы трымаліся ў цемнаце, забаранялася іхная мова, заняпала культура, усюды панавала польская й расейская рэакцыя. Яшчэ горшы лёс у нацыянальным значаньні сустрэў Беларусаў у савецкую эпоху. Н. Вакар падае шматлікія прыклады й лікі савецкіх і польскіх чыстак у васяродзьдзі беларускае інтэлігэнцыі, у васяродзьдзі сьведамых Беларусаў. Думаем, што й Н. Вакару ведама, што нацыя, сьведамасьць гэтае нацыі ня толькі вызначаецца этнаграфічнымі азнакамі — гэта народ, які сам творыць сваю гісторыю й творыць яе сьведама, супольна, творыць у гістарычнай школе.

Паза нацыянальным пытаньнем, у аналізах шэрага жыцьця беларускага народу Н. Вакар зьяўляецца даволі аб'ектыўным. Вось гэтая аб'ектыўнасьць Н. Вакара вельмі не да спадобы нашаму крытыку Р. Шлапаку. Праўда, ён ня шмат што й кранаецца працы Н. Вакара не гаворачы ўжо пра той ці іншы аналіз. Зазначыўшы, што праца Вакара ці сам Вакар «раскрывае поўнае нязнаньне запраўднае гісторыі беларускага народу», Р. Шлапак на веру чытачу пару сказамі запісвае яе да «буржуазнае хвальшыўкі», у якой выказана нянавісьць да СССР. Не абыйшлося й бязь сьведамага хвальшаваньня ці перакручваньня выказваньняў Н. Вакара.

Гэтак Р. Шлапак прыпісвае Вакару быццам-бы такое асьветчаньне, што «беларускі нацыяналізм у эміграцыі ёсьць зборышчам праступнікаў, якія сваімі ўцёкамі на захад уніклі народнай расправы». У Вакара гэтага няма, хоць, праўда, ён і сьхільны ўважаць беларускіх эмігранцкіх лідараў за нейкіх донкіхотаў, аднак зь іншых прычынаў, а паймення з прычыны агульнае хваробы кажнае эміграцыі ды, як Вакар лічыць, зь «нярэальнасьці» беларускага нацыяналізму. Таксама, падаючы навет бачынку, Р. Шлапак цытуе Вакара: «у гэтых колах (у колах беларускай эміграцыі — П. З.) пануе бязьмежная нянавісьць да **беларускага народу».** Адкрываем пададзеную (223) бачынку працы Н. Вакара й канстатуем, напэўна Р. Шлапак ня ведае ангельскай мовы. Дакладна на гэтай бачынцы чытаем: «Апрача бадай цёмнай групы беларускіх фэдэралістых, бязьмежная нянавісьць да **расейскага народу...** прапагуецца найбольш захо[illegible]імі (з Заходняй Беларусі — П. З.) й кат[illegible]цкімі адзінкамі нацыянальных лідар[illegible]. На наступнай бачынцы чытаем так[illegible]ама:

# Міжнародная Канфэрэнцыя аб „палітычнай вайне Саветаў“

(Ад собскага карэспандэнта «Бацькаўшчыны»)

Ад 1-га да 3-га сьнежаня сёлета ўлучна ў Парыжы адбывалася вялікая міжнародная Канфэрэнцыя, прысьвечаная пытаньню каардынацыі сілаў і мэтадаў змаганьня ў «палітычнай вайне» з бальшавізмам. Ад 14 дзяржаваў вольнага сьвету й паняволеных Масквой народаў прынялі ў гэтай Канфэрэнцыі ўдзел каля 250 асобаў.

Што да рэпрэзэнтацыі паасобных народаў, дык найбольш імпазантна былі прадстаўленыя **Французы,** у вагульным ліку каля 50 асобаў, сярод якіх прынялі **актыўны** ўдзел тры былыя прэм'ер-міністры (Морыс Шуман, Антон Пінэ й Рэнэ Плевэн), чатыры міністры, каля дзесяцёх дэпутатаў парляманту, вайскавікі (генэрал Бэтуарт) ды выдатнейшыя дзеячы навукі, грамадзкіх і палітычных арганізацыяў.

**Амэрыканская** дэлегацыя налічвала каля 30 асобаў, палавіна зь якіх прыбылі з Амэрыкі, у тым ліку чатыры сэнатары на чале з сэнатарам Томасам Доддам.

**Ангельцы** складалі каля 15-цёхасабовую дэлегацыю, сярод якой былі лёрд Бірдвуд, генэрал В. С. Бэддаль, два дэпутаты парляманту ды прадстаўнікі навукі.

**Немцы** каля 10-ёх асоб пад старшынствам Д-ра Р. Егэра, віцэ-прэзыдэнта Бундэстагу.

**Бэльгійцаў** рэпрэзэнтавалі два выдатнейшыя дзяржаўныя дзеячы — былы прэм'ер Поль ван Зэлянд і Поль Гэнры Спаак, сучасны генэральны сакратар НАТО.

**Італьянцаў** было каля 10-ёх асобаў, на чале якіх стаялі міністар І. М. Ломбардо, міністар Р. Пачарды й дэпутат парляманту Г. Бэттыёль.

**Гішпанцаў** прысутнічала каля 10-ёх чалавек на чале з былым амбасадарам С. дэ Мадарыягам.

**Галяндцаў** рэпрэзэнтавалі дэпутат парляманту Ф. Г. Гэдгард і рэктар Эўрапэйскага каледжу Г. Бругманс; **Швэдзкую** дэлегацыю — галоўны рэдактар «Дагэнс Нігэтэр» Н. Г. Тынгстэн; **Люксэмбурскую** — міністар нутраных справаў П'ер Грэгуар, **Канадзкую** — дэпутат парляманту А. Брассард, **Аўстрыяцкую** — былы міністар О. Гэльмэр.

Каля двух дзесяткаў налічвалася прадстаўнікоў азіяцкіх народаў, ад імя якіх выступаў на Канфэрэнцыі віцэ-прэзыдэнт Ветнамскага сэнату Цуанг-Конг Куук. Прысутнічала каля 10-ёх дэлегатаў ад афрыканскіх народаў. Прэзыдэнта Конга Касавубу рэпрэзэнтаваў М. Ганды, прэзыдэнта Катангі Чомбэ — М. Дыур.

Апрача гэтага, у Канфэрэнцыі прыймала ўдзел каля паўсотні прадстаўнікоў эміграцыяў (народаў СССР і краін сатэлітаў), амаль вылучна пражываючых у Францыі.

Ад Беларусаў атрымалі запросіны для ўдзелу ў Канфэрэнцыі дзьве асобы: прэзыдэнт Рады БНР М. Абрамчык і аўтар гэтых радкоў у якасьці карэспандэнта «Бацькаўшчыны». Парыскі Блёк, як арганізацыю, заступаў ягоны старшыня прэзыдэнт М. Абрамчык і сп. Н. Цэнцадзэ — былы міністар незалежнай Грузіі.

### АРГАНІЗАТАРЫ КАНФЭРЭНЦЫІ

Ініцыятарамі й арганізатарамі Канфэрэнцыі былі галоўным чынам францускія сацыялістыя, душой арганізацыйнага Камітэту — вядомая пісьменьніца й журналістка Сюзана Лябэн. Арганізацыйна Канфэрэнцыі было прысьвечана 5 паседжаньняў.

### УРАЧЫСТАЕ АДКРЫЦЬЦЁ КАНФЭРЭНЦЫІ

Першае паседжаньне было прысьвечанае ўрачыстаму адкрыцьцю Канфэрэнцыі, якое адбылося ў новым палацы НАТО пад старшынствам Морыса Шумана ў складзе пяцёх сяброў ганаровага Прэзыдыюму й пяцёх сяброў Прэзыдыюму паседжаньня.

Перадусім быў зачытаны ліст прэм'ера Фрацыі Дэбрэ і ліст нямецкага канцлера Адэнаўэра. Абодвы, выбачаючыся, што не маглі асабіста прыбыць на Канфэрэнцыю (першы з прычыны паседжаньня ўраду, другі з прычыны хваробы), віталі ўдзельнікаў Канфэрэнцыі й жадалі ўдачаў. У прывітальным лісьце Дэбрэ, між іншага было сказана:

«Захад павінен больш энэргічна абараняць сябе ад таталітарнага імпэрыялізму... Я падчыркваю з усёй сілай, што Захад павінен больш выкарыстоўваць свае магчымасьці ў вабароне ідэялаў свабоды».

Пасьля гэтага было дадзенае слова генэральнаму сакратару НАТО Полю Г. Спааку. Ягоным гадзінным дакладам і адказамі на запытаньні й закончылася першае інаўгурацыйнае паседжаньне Канфэрэнцыі.

### ДАКЛАДЫ

З аснаўнымі дакладамі на азначаную ў самой назьве Канфэрэнцыі тэму (зразумела, у розных яе аспэктах) выступалі: 1. Сэнатар Додд (два даклады), 2. Морыс Шуман — сучасны старшыня Камісіі замежных справаў францускага парляманту, 3. Эдмонд Мішле — сучасны міністар юстыцыі Фрацыі, 4. Габрыель Марсэль — сябра Францускай Акадэміі Навук, 5. Хрыстафор Эммет — старшыня амэрыканскай арганізацыі «Прыяцеляў Паняволеных Народаў», 6. Г. Штадтмюлер — прафэсар Мюнхэнскага ўнівэрсытэту, 7. С. дэ Мадарыяга — былы гішпанскі амбасадар, 8. Л. Бутвьен — дэпутат францускага парляманту, 9. Антон Кіршоў — дэпутат ангельскага парляманту, 10. сп-ня Сюзана Лябэн. З даўжэйшымі прамовамі, якія можна ўважаць за даклады, выступілі: 1. амэрыканскі сэнатар Кэннэт Б. Кітынг, 2. дэпутат канадзкага парляманту Аўгустын Брасард, 3. Іёджын Лайёнс — былы прэзыдэнт Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня, 4. філіпінскі дэлегат у ЗН, 5. Г. К. Куук — віцэ-прэзыдэнт Ветнамскага сэнату, 6. М. Ганды — рэпрэзэнтант конголянскага прэзыдэнта Касавубу.

Разьмер газэтнага артыкулу не дазваляе мне шырэй затрымацца над зьместам кажнага дакладу гэтак высока кваліфікаваных людзей і на гэтак жыцьцёва важную тэму. Пастараюся таму зрэзюмаваць як найдакладней аснаўное сказанае ў форме агульна закранутых тэзаў і зробленых дакладчыкамі вывадаў. Тэзы, закранутыя дакладчыкамі, можна агульна скамасаваць і падзяліць наступна:

**1. Тэхніка й мэтады бальшавікоў у іхнай «палітычнай вайне».** 1. разнаякасьць і гібкасьць у форме бальшавіцкай прапаганды, 2. праніканьне (інфільтрацыя) ў прэсу вольнага сьвету, у ўстановы й арганізацыі, 3. дывэрсыйна-раскладальная дзейнасьць, праводжаная бальшавікамі ў антысавецкіх арганізацыях, 4. дзейнасьць кансьпірацыйная, 5. мэтады прылашчываньня (суіснаваньня, культурныя абмены й інш.), 6. застрашываньне (бунты, сабатажы, тэрор), 7. магутнасьць арганізацыйнага апарату бальшавікоў, неабмежаваныя фінансавыя сяродкі для прапагандовай і дывэрсыйнай акцыі.

**II. Удачы дасягнутыя бальшавікамі:** 1. Ялта, Кітай, СЭД, Суэз, Токіё, Багдад, Куба, пачаткі ў Конго; 2. савецкі каляніялізм прагрэсуе шляхам арганізаваньня нутранай дывэрсіі; 3. ўсё гэта праводзіцца згодна ўпляначаньня Крэмля, 4. ці гэтае змаганьне разьвяжа ракетная вайна, ці вайна мазгоў, інакш, палітычная вайна?

**III. Актуальныя праблемы перад вольным сьветам:** 1. ці можна задаволіцца перавагай вышэйшасьці ідэялёгіі Захаду (свабода, дэмакратыя й г. д.) над нявольніцкай ідэялёгіяй бальшавізму? 2. ці абмежавацца толькі на помачы недаразьвітым краінам? 3. ці хопіць толькі падгатаваньня ваеннага? 4. ці лагоднасьць у ўзаемадачыненьні з савецкімі лідэрамі больш спрыяе вайне ці міру? 5. ці зьяўляецца неабходнай рэвізія мэтадаў заходняй дыплямацыі ў кірунку большае станоўчасьці?

### АДКАЗЫ, ДАВАНЫЯ ДАКЛАДЧЫКАМІ

Адказы, выплываючыя з глыбокіх і тонка рафінаваных аналізаў дакладчыкаў, можна ў вагульным падсумаваць наступна:

**I. У вацэнцы міжнароднай сытуацыі:**

1. Пагроза мілітарнай вайны ў сучасны мамэнт і ў бліжэйшай будучыні не прадчуваецца (словы П. Г. Спаака) з прычыны: а) нутранага палажэньня савецкай імпэрыі, б) з прычыны бязупынных удачаў Крэмля ў ягонай вонкавай агрэсыўнай палітыцы.

2. Удачы бальшавікоў у палітычнай вайне з вольным сьветам зьяўляюцца вынікам таго, што Крэмль, пачынаючы зь першых гадоў устабілізаваньня свае ўлады, прыступіў адразу да падрыхтоўкі патрэбных яму для гэтага кадраў і на сяньня ён дыспануе імі ў некалькі сотняў тысяч людзей фанатыкаў і спэцыялістых ува ўсіх дзялянках: прапаганды, кансьпірацыі, дывэрсіі і г. п. у той час, як вольны сьвет ня толькі што не намагаўся даць належнага адпору гэткаму бальшавіцкаму наступу, а нат і ня прабаваў стварыць якога-небудзь паважнейшага фронту супрацыву.

3. Атлянтычны Саюз — НАТО гарантуе Захад ад мілітарнай вайны з боку бальшавіцкага блёку, але ніколі не гарантуе ад бальшавіцкіх заваёваў шляхам палітычнай вайны азіяцкіх і афрыканскіх народаў.

**II. Якія канкрэтна й безадкладна трэба прыняць меры вольнаму сьвету?**

1. Неабходна безадкладна стварыць генэральны штаб дзеля палітычнай вайны з бальшавіцкай агрэсіяй.

2. Зарганізаваць салідны фронт сьветавага маштабу, змабілізаваўшы ўсе антыбальшавіцкія дэмакратычныя сілы, дзе-б яны не знаходзіліся.

3. Знайсьці дзеля гэтага адпаведныя матарыяльныя сяродкі, на што Захад мае большыя магчымасьці, чымся Савецкі Саюз.

4. Стварыць адпаведныя школы для падрыхтоўкі адпаведных кадраў, неабходных для такой палітычнай вайны, у першую чаргу міжнароднай акадэміі для сур'ёзнага й грунтоўнага вывучэньня бальшавізму.

5. Стварыць салідныя прапагандовыя кадры місіянэраў і даць ім магчымасьць выкарыстоўваньня прэсы вольнага сьвету й радыяперадачаў.

6. Урады, парляманты, прафэсары, настаўнікі, журналістыя ўсіх вольных дэмакратычных дзяржаваў павінны павесьці найэнэргічнейшае змаганьне зь інфільтрацыяй камунізму.

7. Увесь вольны сьвет, у першую чаргу Захад мусіць радыкальна зьмяніць сваю тактыку й мэтады дыплямацыі ў дачыненьні да камуністычнага блёку.

8. Вольны сьвет павінен даць усемагчымую помач апазыцыйным рухам **паняволеных народаў** унутры Савецкага Саюзу.

Варта пры гэтым адцеміць выступленьні трох дакладчыкаў, якія ў тэй ці іншай меры датычылі беспасярэдна нас — паняволеных Масквой народаў.

**1. Выступленьне Іёджына Лаёнса асабліва,** які, наўсуперак іншым дасьледчыкам, што прадстаўляюць сілу бальшавіцкага апарату ў палітычнай вайне часамі амаль у панічным духу, заняўся аналізай слабых бакоў бальшавізму. Гэтымі слабымі бакамі — Ахілесавай пятой бальшавізму, ён ня толькі ўважаў, але й пераконліва даводзіў, зьяўляюцца **вызвольныя рухі паняволеных Масквой народаў.** На гэтыя вызвольныя рухі Лаёнс і раіў будучаму генэральнаму штабу зьвярнуць асаблівую і ў першую чаргу ўвагу, як на найлепшых саюзьнікаў вольнага сьвету й на небясьпячнейшых ворагаў бальшавізму.

**2. Выступленьне міністра Морыса Шумана,** які, крытыкуючы заходнюю дыплямацыю, у першую чаргу францускую дэлегацыю ў ЗН, абвінавачваў яе ў тым, што яна ніколі ня выкарыстоўвае такіх аргумэнтаў, як захапленьне бальшавікамі й паняволеньне цэлага раду нерасейскіх народаў, запраўды незалежныя дзяржавы якія былі бальшавікамі зьліквідаваныя, а на іхным месцы створаныя фікцыі дзяржаваў.

**3. Сэнатар Додд** прысьвяціў спэцыяльны даклад, як вольны сьвет павінен заняцца мабілізацыяй ужо існуючых кадраў. Ён ня толькі запрапанаваў Канфэрэнцыі стварыць у вольным сьвеце акадэмію, якая-б згуртавала ўсе антыбальшавіцкія навуковыя сілы, у тым ліку й эмігрантаў, але й падаў да ведама,

(Заканчэньне на 5-ай бачыне)

# Кніжная паліца

(Працяг з 3-яй бачыны)

**А. М.** (Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква), **ЗАКОН БОЖЫ. СТАРЫ ЗАПАВЕТ.** Мэльбурн — Аўстралія, 1960, 36 бб., ілюстрацыі, карта, (ратататар).

Кніжка адчыняецца гэткай зацемкай: «З багаславенства духоўных уладаў Сьвятое БАПЦ друкуецца кніжыца Старога Запавету, якая зьявіцца падручнікам пры навучаньні Закону Божага для беларускіх дзетак у школе і ўдома. Паза школай кніжыца будзе карыснай для ўсіх Беларусаў дзеля веды асноваў Хрысьціянскае рэлігіі».

У кніжыцы, у кароткай і даступнай форме, пададзеная гісторыя ізраэльскага народу, пачынаючы ад азначэньня Бога й стварэньня сьвету, да заваёвы Юдэі Рымлянамі.

Канчаецца кніжыца такой зацемкай: «Пры апрацаваньні кніжыцы Старога Запавету перад кажным артыкулам паказана спасылка на месцы із Сьв. Біблії, каб кажны, хто вучыцца Закону Божага, змог лёгка іх адшукаць і праступдыяваць, што ўважаем за вельмі патрэбнае. — Архімандрыт МАДЭСТ».

**Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. КАЦІХІЗІС АБО НАВУКА ВЕРЫ.** Выданьне першае (Выдадзена коштам Зьмітры Кажуры, Васіля Ціхановіча і А. М.), (Аўстралія — Мэльбурн, 1960), 24 бб., ілюстрацыі, (ратататар).

Ад выдаўцоў:

«Сьвятарская праца па эміграцкіх парафіях увідочніла патрэбу выданьня кніжыцы «Каціхізіс», які-б дапамог усьведамленьню беларускае праваслаўнае моладзі ў праўдах Сьвятой Сабарнай Апостальскай Праваслаўнай Царквы.

«Мы, выдаўцы, чуліся-б высока ўзнагароджанымі, калі-б каціхізіс знайшоўся ў кажнай праваслаўнай сям'і і каб ім карысталіся і зь яго навучаліся ўсе чытаючыя суродзічы нашыя ды пасьлей пераказвалі засады Праваслаўнай Веры сваім нашчадкам.

«Каціхізіс апрацаваны настаяцелем Мэльбурнскае сьвятых трох віленскіх мучанікаў — Антонія, Іоана і Эўстафія — парафіі БАПЦ, а. Архімандрытам Мадэстам».

Вельмі дбора, што мэльбурнскія Беларусы ўзяліся за карысную й адказную справу выданьня рэлігійных падручнікаў. Хацелася-б толькі зьвярнуць увагу царкоўных уладаў БАПЦ, што рэлігійныя выданьні, асабліва **падручнікі,** павінны акуратна апрацоўвацца з моўнага боку, каб унікаць сынтаксычнае каструбаватасьці, празьмерных уплываў царкоўнаславяншчыны там, дзе яе можна замяніць беларускімі словамі ды унікаць адначасна празьмернага «зьбеларушчваньня» (не «Каціхізіс», прыкладам, а «Катэхізыс» або «Катэхізіс»).

**«БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА** № 17, (Выдае: Беларуская выдавецкая сябрыня), ліпень-жнівень 1960 г., 80 бб.

У нумары:

Рэдакцыйны артыкул «Айцец др. Часлаў Сіповіч — беларускім епіскапам»; Я. Чарнэцкі, «Наша мэта» («каб уся наша нацыя была адной рэлігіі», «усходні абрад мусіць быць зьбеларушчаны»); «Праваслаўныя аўтакефальныя цэрквы»; «Польская газэта аб высьвячэньні епіскапа Часлава»; В. Пануцэвіч, «Сьветчаньне Эразма Цёлка й іншых аб Ліцьве»; Мікола Волаціч, «Аб паходжаньні славянскага пісьма» (новыя дасьледаваньні зь ілюстрацыямі); «Некалькі слоў Жыровіцкаму брацтву»; «Лісты ў рэдакцыю»; «Хроніка».

**RUSSIA SCIENCE IN THE 21st CENTURY** (Расейская навука ў 21-ым стагодзьдзі) **by S. Gouschev and M. Vassiliev New York (McGraw-Hill Book Co.) 1960, 222.**

У ўступе да кніжкі гаворыцца аб ейным паходжаньні: «Ідэя выданьня гэтае кнігі нарадзілася ў рэдакцыі «Комсомольской правды'...». У кнізе савецкія навуковыя разказваюць аб дасягненьнях і плянах савецкае навукі. Апрача свае навукова-інфармацыйнае вартасьці, публікацыя ніякіх асаблівасьцяў, вартых увагі, ня мае — хіба толькі тое, што паміж ейных суаўтараў фігуруе й А. Жабрак, беларускі біёляг, сябра АН БССР.

Кніга, аднак, зварачае на сябе ўвагу сваім загалоўкам **«Расейская навука...»,** які — можна сказаць з пэўнасьцяй — нарадзіўся таксама недалёка ад рэдакцыі «Комсомольской правды». У сувязі з гэтым, у некаторых палітыкуючых «перакладнікаў» — Расейцаў і не-Расейцаў — хацелася-б папытацца: чаму, калі камунізм, дык міжнародны, калі каляніялізм, дык камуністычны, а калі навука, дык расейская?

**Я. Запруднік**

---

«Дамінуючай ноткай ёсьць бязьмежная любасьць да (свае) краіны у сэрцах выгнаньнікаў».

Як бачым, Н. Вакар гаворыць зусім супрацьлеглае. Але-ж ці гэтае перакручваньне было вынікам перакладу? Зусім не. Сьведамым хвальшаваньнем, каб паказаць беларускаму чытачу на Бацькаўшчыне, што навет і на Захадзе беларускую эміграцыю ўважаюць за кучку «зраднікаў». Бязумоўна, у Вакара ёсьць і такое асьветчаньне, зацытаванае Р. Шлапаком, але яно знаходзіцца на бачынцы 198 і самым Вакаром узятае зь лістовак савецкае партызанкі на Беларусі ў другую сьветавую вайну. Тут Н. Вакар гаворыць, што ў 1943 годзе на Беларусі разгарнулася партызанка, і хоць не адзін аддзел ня быў названы імем беларускім, у сваей падпольнай літаратуры яна зьвярталася да беларускага «патрыятызму», выкрываючы нямецкіх супрацоўнікаў як «зраднікаў беларускага народу». Зусім што іншае!

Што-ж у працы В. Колярца вызвала рэакцыю Р. Шлапака, праўдзівей Масквы? У першую чаргу тое, што савецкую нацыянальную палітыку ён азначыў, як **клясычны каляніялізм.** Падругое, што В. Колярц на савецкую рэпліку пра быццам эканамічны росквіт падсавецкіх народаў адказаў наступна: «Сутнасьць каляніяльнай палітыкі ці сыстэмы, якой яна адказвае, можа быць ацэнена ня толькі па матарыяльных дасягненьнях нацыяў, але й па тым, у якой ступені цэнтральная ўлада задавальняе ці ўціскае нацыянальныя імкненьні народаў Савецкага Саюзу». Асабліва апошняе цьверджаньне выклікае злосьць у Р. Шлапака, які пеніцца, быццам падобная пастаноўка пытаньня «ня мае нічога супольнага з навуковым мэтадам у вацэнцы разьвіцьця нацыяў». І Шлапак разважае прымітыўным сваім савецка-расейскім розумам: «Ні пра якія другія жаданьні працоўных у мінулых адсталых і прыгнечаных царызмам нацыяў ня можа быць мовы, апрача эканамічнага й культурнага росквіту ў умовах іх нацыянальнай незалежнасьці й дзяржаўнай самастойнасьці, якую яны здабылі ў сувязі з Кастрычніцкай рэвалюцыяй». Фактычна, із гэтага асьветчаньня Р. Шлапака вынікае, што падсавецкія народы могуць і павінны задаволіцца лёсам быдляціны, якой дастаткова прыдзелены зьверху куток стойла ды падкінуты ахапак саломы.

Выссаныя з пальца «ўмовы нацыянальнай незалежнасьці й дзяржаўнай самастойнасьці», якія, як будзем бачыць далей, адмаўляе і сам аўтар разгляданага пашквілю, ён штучна й аўтэрытэтна пераносіць і на беларускі народ. «Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, — запэўнівае Г. Шлапак, — адкрыла беларускаму народу шлях да палітычнага й нацыянальнага адраджэньня... Працоўная кляса Беларусі ў задзіночаньні зь беднейшым сялянствам пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў і пры непасярэдняй дапамозе савецкага ўраду на чале зь Ленінам першы раз у гісторыі ўтварыла Беларускую дзяржаву».

Здорава, але толькі для наіўных! Ведама, хвальшаваньне й жаданая падтасоўка можа на некаторы час захіліць гістарычную праўду, але ня зьнішчыць яе. Думаем, што й Шлапаку занадта добра ведама, як гэтая «працоўная маса Беларусі на чале з бальшавіцкай партыяй і Ленінам» ставілася да беларускага пытаньня. Хто гэта, калі не яны крычалі на розных прынагодных зьездах: «Не дапусьцім аддзяленьня Беларусі ад роднай Расеі» ды называлі гэтую Беларусь «Паўночна-Заходнім краем Расеі»?! Яму ведама таксама й той бальшавіцкі гандаль як беларускім пытаньнем, так і беларускімі землямі, калі пасьля вымушанага абвешчаньня БССР гэтая апошняя ператваралася й у Літ-Бел, і зводзілася да 6 паветаў Менскае губэрні. Відавочна, што ўжо ў той час Беларусы добра асвоілі прынцып «інтэрнацыяналізму», што на кажным кроку зракаліся нацыянальных інтарэсаў уключна з сваім імем «для дабра рэвалюцыі»? Пайменна так намагаюцца выясьніць утварэньне Літ-Белу сучасныя беларускія савецкія гісторыкі, каб затушаваць відавочную антыбеларускую праграму Масквы.

А што-ж азначае сучасная «сувэрэннасьць» БССР? Яна мусіць быць праўдзівай, бо так аўтарытэтна й галаслоўна зазначыў Р. Шлапак. Палічыўшы гэтым самым палітычны бок «сувэрэннасьці» БССР даказаным, Р. Шлапак уступае ў спрэчку з В. Коларцам у пытаньні эканамічна-культурнага аспэкту незалежнасьці БССР. Тут выплывае наверх старая зьезджаная статыстыка: БССР у параўнаньні з 1913 годам прадукуе толькі трактараў, толькі й толькі машын ці станкоў, толькі й толькі дае лёну, толькі й толькі высылае свае прадукцыі ў іншыя рэспублікі ці за межы СССР, толькі й толькі мае школаў, толькі й толькі выпускае інтэлігенцыі й т. д. Не забыўся навет успомніць, што «крычаўскі цэмэнт ішоў на будаўніцтва маскоўскага мэтро й каналу Масква-Волга». Выпала толькі адна статыстычная драбніца, што Беларусы-вязьні будавалі гэтае мэтро й гэты канал. З гэтае статыстыкі вынікае, што ўжо сяньня БССР «перагнаў» усе заходняэўрапэйскія краіны, у тым ліку й Амэрыку.

Калі браць на ўвагу гэтую вытворчасьць БССР за аснову сувэрэннасьці, дык Конго павінна было-б прынамся стагодзьдзе таму быць незалежнай дзяржавай. Яна гэтулькі выкінула на міжнародны рынак дыямэнтаў, урану й іншых каштоўнасьцяў, што БССР лепш не паказвацца з «сваімі» трактарамі. Аднак, каб паставіць гэтае Конго на свае ногі, сяньня мусяць памагаць яму звонку.

А таму нашаму земляку Шлапаку, што запрадаўся Маскве, выпадала-б у першую чаргу скласьці новую статыстыку, пайменна, якую карысьць мае беларускі народ з свае прадукцыі. У гэтым выпадку ён яскрава ўбачыў-бы той клясычны савецкі каляніялізм, пра які гаворыць В. Колярц.

(Заканчэньне будзе)

**П. З.**

# Віктар Жаўняровіч мастак зь беларускай душой

Мастацкае малярства ў Беларусі яшчэ не дачакалася свайго поўнага разьвіцьця, і гэта галоўна ў сувязі з тым, што яно вымагае, апрача таленту, таксама грунтоўнай, доўгай і ўсебаковай падрыхтоўкі. Зразумела, да поўна й свабодна выяўленага мастацтва мы ня можам залічаць малярства падсавецкай Беларусі, зьвязанага антымастацкімі прынцыпамі г. зв. сацыялістычнага рэалізму, калі мастакі, навет і высока ўталентаваныя, змушаныя на загад партыі багамазіць Леніна, Хрушчова ці чырвонаармейца з чырвонаю плахтаю ў розных позах. На эміграцыі таксама не аказалася шмат мастакоў, бо іх ня шмат было і ў краі, а некалькі тых, што здабылі патрэбныя студыі за мяжой, пападаюць пад уплыў пануючых тут кірункаў і ня могуць быць разгляданыя інакш, як мастакі, хоць і беларускага паходжаньня, але заходняга тыпу й заходняй тэматыкі.



**Віктар Жаўняровіч**

Таму асабліва міла адзначыць існаваньне аднаго, спасярод нямногіх, беларускага мастака, які заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Ёсьць ім спадар Віктар Жаўняровіч, які жыве, працуе й творыць у сталіцы сьветавага мастацтва — Парыжы.

Віктар Жаўняровіч радзіўся ў Чыце ў Сібіры ў 1913 годзе, дзе пражывалі ў той час ягоныя бацькі: Мікалай Жаўняровіч, ураджэнец Друі над Дзьвіной, быў служачым на царскіх чыгунках, а маці Беларуска зь Дзісны, з над тэй-жа Дзьвіны, гадавала сваіх маленькіх дзетак. Мікола Жаўняровіч быў узяты ў войска, адкуль больш і не вярнуўся, а маці вярнулася ў Беларусь, калі Віктару было ўжо дзевяць гадоў.

Правёўшы першае дзяцінтва здалёк ад свайго адвечнага краю, але атрымаўшы ад бацькоў беларускую душу, Віктар хутка палюбіў Беларусь і ўспрыняў ейнае характва зь сілай куды большай, чымся гэта здараецца некаторым тым, якія тут радзіліся, падрасталі й навет спасьцерагалі ўсё тое цудоўнае, што іх акружала. Характво беларускага Надзьдзьвіньня разкалыхала ў таленавітага хлапчука мастацкія струны, і ён ужо ня мог спыніцца, каб гэтых сваіх асаблівасьцяў не разьвіваць далей.

Пасьля сканчэньня сямігодкі Жаўняровіч паступіў у гімназію імяні Льва Сапегі ў Друі, дзе дырэктарам быў вялікі беларускі патрыёта ксёндз Андрэй Цікота, генэрал айцоў Марыянаў. Пасьля сканчэньня гімназіі прыйшла пара на выбар кірунку далейшых студыяў. Выбіраць трэба было між музыкай і малярствам, бо да абодвых кірункаў Жаўняровіч меў талент і сьхільнасьць, і пасьля доўгіх разважаньняў выбраў Кансэрваторыю ў Вільні. Тут пад кіраўніцтвам прафэсара Бэера вывучаў музыку ў клясе опэрнага сьпеву.

Адначасна займаўся малярствам. Гэтае раздваеньне ня было пазытыўным зьявішчам для Жаўняровіча. Займаючыся музыкай рэгулярна, ён мусіў занядбоўваць малярства. Але, ня гледзячы на гэта, і ў малярстве яму ўдалося здабыць не малыя пазыцыі. Яшчэ перад вайною 1939 году ён выстаўляў свае малярскія працы на выстаўках ведамага ў той час Таварыства Незалежных Мастакоў. Няраз здабываў паважныя ўзнагароды й прэміі, а таксама знаходзіў ахвотных пакупнікаў на свае абразы.

Але прыйшоў год 1939 і акупацыя Заходняй Беларусі бальшавікамі. Родная гаспадарка Жаўняровічаў была разграбленая бальшавікамі, і яму прыйшлося зарабляць на жыцьцё то сьпяваньнем, то малюнкамі. Не папра́вілася палажэньне й падчас нямецкай акупацыі, бо, як кажа старая прыказка, калі грымяць гарматы, дык маўчаць музы. Паўторны наступ бальшавікоў, і Віктар Жаўняровіч не адважыўся больш аставацца пад іхным панаваньнем.

Пасьля вайны Жаўняровіч апынуўся ў Францыі. Калі толькі рэпатрыяцыйная дзейнасьць савецкіх місіяў у Францыі спынілася й агенты бальшавікоў выехалі ды па вуліцах Парыжа можна было хадзіць сьмялей, Жаўняровіч пачаў разглядацца за магчымасьцямі прадаўжаньня сваіх студыяў. Перадусім ён злажыў экзамен і пачаў вучыцца ў Парыскай Музычнай Касэрваторыі пад кіраўніцтвам прафэсара Бэрнарці, але яму не ўдалося дамагчыся стыпэндыі, і ён павінен быў пакінуць студыі.

Не пакідаў Жаўняровіч і думкі аб малярстве. Ён быў зьвярнуўся да некаторых польскіх і расейскіх мастакоў за парадай, але гэтыя, зь ведамых нам прычынаў, прадставілі яму справу гэтак, што бедны наш беларускі мастак страціў ахвоту да далейшых імкненьняў чагосьці дабіцца. Прынагодна займаўся салёвымі выступленьнямі на розных акадэміях і таварыскіх зборках ды маляваў беларускія краявіды, якімі дарыў прабываючых тут Беларусаў. Сяньня ў Парыжы й ваколіцах няма ніводнага беларускага патрыёты, у якога у хаце на ганаровым месцы не красаваўся-б беларускі краявід пэндзля Жаўняровіча, поўны характва, багацьця колераў, незраўнанай кампазыцыі, а перадусім беларускі ня толькі з тэматыкі, але й душы.



**Віктар Жаўняровіч: «Зіма»**



**Віктар Жаўняровіч: «Ручэй»**

Але каб адчуць гэтае характво, трэба быць Беларусам і любіць свой край. Тут на Захадзе людзі няздольныя любіць гэтага характва. Тут мастацтва ацэньваецца паводля яго сьмеласьці тарнаваньня няведамых дагэтуль хвормаў ці калёраў і дзеля гэтага імпрэсіяністычныя абразы Віктара Жаўняровіча ня шмат знаходзілі прызнаньня ў цяперашняй мітусьці ў пагоні за мадэрнізмам ды абстракцыянізмам. Гэты факт змусіў нашага мастака перадумаць справу нанава ды пакусіцца папрабаваць мадэрнізму. Ужо першыя спробы паказалі, што хацець — гэта значыць магчы, і Віктар Жаўняровіч дасягнуў удачаў.

Улетку сёлета Жаўняровіч упяршыню прыняў удзел у мастацкай выстаўцы на гэтак званым Опалёвым Пабярэжжы ў Тукет, зарганізаванай зусім паважным задзіночаньнем мастакоў, званым „Palette Francaise“. Тут Жаўняровічу прызналі ўзнагароду „Premier Motion Speciale“ за цэласьць творчасьці. Там-жа адначасна ўдалося распрадаць усе ягоныя абразы. У сьлед за гэтым Жаўняровіч выставіў свае працы на 99 Салёне De Versailles у Вэрсалі, дзе было задэманстравана 357 прац з правінцыі Ill de France і Парыжа. Хоць гэтым разам Жаўняровічу шчасьце не паспрыяла, але з прыемнасьцю нам удалося сьцьвердзіць, што гэта не падарвала ахвоты мастака да далейшай працы, і за колькі месяцаў Жаўняровіч мае выстаўляць свае абразы на іншай выстаўцы. Ён з упэўненасьцю сьцьвярджае, што хутка даб'ецца залатой мэдалі, і мы поўнасьцяй падзяляем ягоныя надзеі.

Із свайго боку жадаем яму як найлепшых дасягненьняў!

**Ул. Ш-ц**

# Міжнародная Канфэрэнцыя...

**(Заканчэньне з 4-ай бач.)**

што ён ужо такі праект для здабыцьця на гэта сяродкаў падаў у сэнат ЗША і што сэнат яго прыняў. Цяжкасьці спатыкаюцца яшчэ ў кангрэсе, але ён спадзяецца, што й яны будуць пераможаныя. Сяродкі, якіх просіць сэнатар Додд ад сэнату й кангрэсу, разьлічваюцца ім на 2 000 асоб. Сэнатар Додд уважае, што акадэмія мела-б быць прысьвечаная вылучна вывучэньню бальшавізму й мэтадаў змаганьня зь ім.

Аб выступленьнях эмігрантаў, у тым ліку й аб выступленьні прэзыдэнта М. Абрамчыка будзе пададзена ў «Бацькаўшчыне» пазьней, а таксама будуць зьмешчаныя некаторыя рэзалюцыі, прынятыя Канфэрэнцыяй. Тут толькі адцемім, што ў ваднэй з рэзалюцыяў Канфэрэнцыя даручыла Арганізацыйнаму Камітэту стварыць часовае бюро, якое ў першую чаргу павінна ўвайсьці ў кантакт з усімі існуючымі антыбальшавіцкімі арганізацыямі ў вольным сьвеце дзеля каардынацыі дзеяньняў.

Напасьледак некалькі слоў аб маіх собскіх уражаньнях з Канфэрэнцыі:

1. Канфэрэнцыя гэтая, як антыбальшавіцкая дэманстрацыя, на мой пагляд, бязсумлеву зьяўляецца найвялікшай канфэрэнцыяй, якія адбываліся да гэтага часу.

2. Ад гэтай Канфэрэнцыі можна спадзявацца ў сэньсе практычным найболей дзеля стварэньня ўзапраўды салідная антыбальшавіцкага фронту ў міжнародным маштабе, гарантыяй чаго зьяўляецца прыняцьце ў ёй удзелу так выдатных дзяржаўных дзеячоў сьвету.

3. Дагэтуль выглядала, што справай змаганьня з бальшавізмам цікавіліся адны Амэрыканцы. З асаблівай прыемнасьцяй трэба таму адзначыць і вітаць так актыўны ў ёй удзел выдатнейшых дзяржаўных людзей Эўропы і, у першую чаргу, Французаў, Немцаў, Бэльгійцаў і часткава Ангельцаў, чаго дагэтуль мы ня бачылі.

**М. Віка**

**Карэспандэнт «Бацькаўшчыны»**

**Парыж, 7 сьнежаня 1960 г.**

# „Амэрыка, прачніся!“

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Ад Рэдакцыі: У папярэднім нумары мы зьмясьцілі першую частку артыкулу амбасадара Філіпінаў у Задзіночаных Штатах Карлёса П. Ромулё. Хіба нашы чытачы прыгадваюць, што мы спыніліся на тым, дзе аўтар падкрэсьлівае, што камуністыя ня могуць імкнуцца да нічога іншага, як да татальнай перамогі. У той-жа час, — як кажа аўтар, — дзяржавы вольнага сьвету прымушаныя тактыкай Масквы кідацца з аднаго месца ў другое, спадзяючыся толькі на нейкае прыймальнае для іх замірэньне, якое не замінала-б ім займацца сваімі ўласнымі справамі. Карлёс П. Ромулё працягвае:

*

Уся гіронія гэтага палажэньня палягае ў тым, што зразумець мэты камунізму зусім ня цяжка, бо яны зусім шчыра выказваюцца крамлёўскімі валадарамі — пачынаючы ад Леніна й канчаючы Хрушчовам. Прыкладам, усё, што здарылася ў Азіі, дакладна супадае з плянам, распрацаваным Кангрэсам Народаў Усходу, які адбываўся ў Баку ў верасьні 1920 году. Кангрэс гэты быў арганізаваны саветамі. І плян, распрацаваны на ім, які прадбачыў выкарыстоўваньне антыкаляніяльных настрояў і нацыянальных пачуцьцяў — быў там ня толькі сфармуляваны, але й **апублікаваны.** Але, застаючыся сьляпымі ў дачыненьні да гэтых няраз паўтараных і нязьменных мэтаў камунізму, Задзіночаныя Штаты Амэрыкі й іхныя саюзьнікі ўважаюць за лепшае разглядаць існуючы канфлікт, як анамалію, як прыпадковае непаразуменьне, якое можна заладзіць пастулова цярплівым таргаваньнем!

У міжчасе, кіраўнікі заходняга сьвету паддаюцца шантажу і памаленьку адступаюць. Возьмем прыклад:

Задзіночаныя Штаты распасьцерлі чырвоны каберац для Мікаяна; гэта было нечым на кшталт генэральнай пробы для прыняцьця Хрушчова. А незадоўга перад гэтым амэрыканскі самалёт быў электронным спосабам заваблены ў савецкую Армэнію (бацькаўшчыну Мікаяна), і за гэта заплацілі жыцьцём 17 амэрыканскіх лётнікаў. Урад Задзіночаных Штатаў Амэрыкі меў дакументальныя доказы савецкай віны, але ўстрымаўся ад публікацыі іх да ад'езду Мікаяна, каб не псаваць ягонае візыты «добрае волі». І што гэта дало?

Перад тым, як была дасягнутая дамоўленасьць склікаць Парыскую нараду на найвышэйшай узроўні, у Жэневе была скліканая канфэрэнцыя замежных міністраў вялікіх дзяржаваў. Прэзыдэнт Айзэнгаўэр няраз публічна заяўляў, што калі гэтая канфэрэнцыя ня дасьць канкрэтных вынікаў, нарада на найвышэйшай узроўні, якое дамагаўся Хрушчоў, не адбудзецца. Жэнэўская канфэрэнцыя міністраў замежных справаў не дала ніякіх вынікаў — але, ня гледзячы на гэта, Захад згадзіўся на канфэрэнцыю на найвышэйшай узроўні. Ці-ж правалу яе ня трэба было спадзявацца?

У сваім імкненьні дамагчыся посьпеху на Жэнэўскай канфэрэнцыі, Задзіночаныя Штаты амаль прызналі «дэ факто» савецкую зону Нямеччыны — тое, чаго так горача жадаў Крэмль — згадзіўшыся на прысутнасьць «назіральнікаў» з савецкай зоны Нямеччыны побач з назіральнікамі Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі.

Хрушчоў, які штучна стварыў крызіс у Заходнім Бэрліне сваім ультыматумам, крычаў, што палажэньне гэтага гораду «ненармальнае». Вашынгтон не знайшоў нічога лепшага, як згадзіцца з гэтым, ужываючы тыя самыя словы. А кажнаму відавочна, што Хрушчову трэба было адказаць: палажэньне ў Заходнім Бэрліне цалкам нармальнае, бо яно адпавядае ўмове, падпісанай у свой час паміж вялікімі дзяржавамі — але ненармальнае палажэньне існуе ў Усходняй Нямеччыне, дзе Савецкі Саюз увесь час гвалціць пасьляваенныя ўмовы, у якіх былі прадбачаныя свабодныя выбары.

Застаючыся непапраўнымі аптымістымі незалежна ад усіх здарэньняў, Задзіночаныя Штаты два разы прадоўжылі мараторыюм на ядзерныя выпрабаваньні, даючы гэтым самым Крэмлю якраз тое, чаго ён жадаў — забарону ядзерных выпрабаваньняў без кантролю.

Навет і цяпер Задзіночаныя Штаты хістаюцца, ці скончыць гэты мараторыюм, хоць працяглыя перамовы бяз выніку прынесьлі ім толькі шкоду — і прапагандовую перамогу для Савецкага Саюзу.

На няшчасьце, праўдай ёсьць тое, што кіраўнікі вольнага сьвету ставяцца да міжнароднай банды гангстэраў зь іхнай поўнай канспірацыяй, як быццам-бы гэта было старамодным канфліктам паміж цывілізаванымі народамі, якія захоўваюць дыпляматычную ветлівасьць і паважаюць падпісаныя ўмовы. Мы далей спадзяемся прагрэсу у псэўда-перамовах, якія, з камуністычнага боку, зьяўляюцца толькі часткай халоднай вайны, а мы яе прайгрываем пастулова. А найгоршае тое, што дэмакратычная кааліцыя ўвесь час, беспадстаўнай надзеяй, намагаецца «дамагчыся адпружаньня», «стабілізацыі» і г. д. — намагаецца **«ўстрымаць камунізм»**, замест таго, каб паставіць сваёй канчальнай мэтай **зьнішчыць** яго крыніцу. А ў міжчасе чырвоная афэнзыва застаецца інтэнсыўнай, плянавай і ўпартай.

Я меў не малое асабістае дасьветчаньне што да гэтай упартасьці. Калі ў Сан Францыска засноўвалася Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў у 1945 годзе, сымпатычны, добра валодаючы гішпанскай мовай Расеец, «прыпадкова» сядаў каля мяне кажнай раніцы ў часе сьнеданьня ў рэстаране гатэлю. Ён выкарыстоўваў магчымасьць, каб заўсёды навесьці гутарку на тое, як Задзіночаныя Штаты пакінулі «на волю лёсу» Філіпіны падчас вайны. Ён заўсёды дзівіўся, як я, азіят магу «ператраўліваць» краіну, якая прыгнечвае расавыя мяншыні. Некалькі гадоў пазьней, калі я быў дэлегатам Філіпінаў — удзельнікам далёкаўсходняй камісіі ў Вашынгтоне, савецкі генэрал — сябра камісіі ўвесь час ня траціў энэргіі, каб сустрэцца зы мною й пераканаць мяне ў тым, што Задзіночаныя Штаты — гэта злая сіла. Было зусім відавочным, што генэрал гэты быў спэцыяльна прызначаны дзеля мае «ідэялягічнае апрацоўкі». І яшчэ пазьней, калі я быў старшынёй Генэральнай Асамблеі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, Андрэй Вышынскі тры разы запрасіў мяне на вячэру ў савецкую рэзыдэнцыю ў Гленкоў, дзе ён выкарыстоўваў усе свае здольнасьці дыплямата, намагаючыся наставіць мяне супраць Захаду.

Зразумела, у гэтым выпадку іхная тактыка не дала пажаданых для іх вынікаў. Але я бачыў, што гэтая самая тактыка была выкарыстоўваная з посьпехам у дачыненьні да іншых азіятаў,

**(Заканчэньне на 6-ай бач.)**

